№№167–168
(3706–3707)

26 кастрычніка 2012 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

www.nv-online.info

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

**Да ўвагі!**

*Хто хоча
набываць газету
ў офісе рэдакцыі —
чакаем!*

ГАЗЕТА—ЧЫТАЧЫ

## *Наша сіла — у Вашай падтрымцы!*

***Так, шаноўныя прыхільнікі "Народнай Волі": наша сіла — у Вашай падтрымцы. Толькі разам мы можам выдаваць цікавую, патрэбную газету.***

***Будзем рады, калі ў 2013 годзе чытацкая аўдыторыя "Народнай Волі" павялічыцца. Падпіска на студзень—чэрвень ідзе поўным ходам. Не адкладвайце, калі ласка, на апошні момант. Ёсць магчымасць аформіць падпіску не толькі сабе, але і бацькам, сваякам, сябрам, якія маюць фінансавыя цяжкасці, зрабіце гэта — водгукам будуць словы падзякі.***

**Вы — з «Народнай Воляй», «Народная Воля» — з Вамі!**

## *Шэсце на Дзяды — 28 кастрычніка*

Мінскія ўлады далі дазвол на правядзенне 28 кастрычніка, у нядзелю, традыцыйнага шэсця і мітынгу ў Курапатах, якія штогод праходзяць на Дзяды. Пачатак збору каля Гадзіннікавага завода (ст.метро "Парк імя Чалюскінцаў") у 10.30. Шэсце пройдзе па праспекце Незалежнасці, вуліцах Каліноўскага, Сядых, Карбышава, Гамарніка, Мірашнічэнкі. Мемарыяльны мітынг пачнецца ў 15.00. З сабой удзельнікі панясуць бел-чырвона-белыя сцягі і крыжы.

КРОПКІ НАД «і»

## *Навіна пра «чысткі» была перабольшаннем*

Пасля сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі з кіраўніком Следчага камітэта Валерыем Вакульчыкам многія СМІ (асабліва электронныя) паспяшаліся абнародаваць сенсацыйную навіну.

Загалоўкі паабяцалі сенсацыю: "Следчы камітэт чакае маштабная чыстка", "Масавае скарачэнне следчых" і гэтак далей і таму падобнае. Выснову пра такое развіццё падзей многія журналісты зрабілі з наступнага сказа ў афіцыйным паведамленні: "Прапанаваныя змены дазволяць скараціць каля 40 чалавек, у тым ліку 34 кіраўнікі, 15 з якіх — са спецыяльным званнем палкоўніка юстыцыі".

Нагадаем, што нядаўна Аляксандр Лукашэнка аддаў каманду падрыхтаваць скарачэнне дзяржаўных служачых на 25—30 працэнтаў і нават стварыў спецыяльную камісію на чале з кіраўніком сваёй Адміністрацыі Андрэем Кабяковым, якая рыхтуе канкрэтныя прапановы. Інфармацыю пра сустрэчу Аляксандра Лукашэнкі з Валерыем Вакульчыкам многія так і зразумелі: узгаднялася скарачэнне штатаў Следчага камітэта. Але 40 чалавек немагчыма ўпісаць у загаданыя 25—30 працэнтаў.

Сітуацыю "Народнай Волі" патлумачыў прэс-сакратар Следчага камітэта Павел Траулька. Ён паведаміў, што ў Следчым камітэце не будзе скарочана ніводная штатная адзінка. Гэтая структура "аптымізуе штаты" не метадам скарачэння, а метадам перапрафілявання. Проста кантрольна-рэвізійныя пасады будуць пераарыентаваныя на канкрэтную працу.

Так што ніякай "чысткі" ў Следчым камітэце не чакаецца. Хто прачытаў пра гэта ў інтэрнэце — не верце.

У той жа час абяцаюць, што людзей, якія будуць займацца непасрэдна следствам, стане болей. І то хлеб!

НЕСЧАСТНЫЙ СЛУЧАЙ

## *«Она вернется к работе, все будет хорошо»*

Белорусская гимнастка Татьяна Тур сломала шею во время репетиции в московском Центре циркового искусства.

*"Операция прошла очень успешно, она шевелит обеими ногами, все остальное — это уже процесс восстановления. Она вернется к работе, все будет хорошо. У Татьяны произошло смещение шестого шейного позвонка, не перелом",* — рассказал агентству РИА "Новости" муж гимнастки Сергей Яцкий.

Уроженка Гомеля мастер спорта Татьяна Тур занимается гимнастикой с 5 лет. В цирке Юрия Никулина на Цветном бульваре и Росгосцирке она начала работать в 2007 году.

СИТУАЦИЯ



## Беларусь задолжала России около 6 млн тонн нефтепродуктов?

*Поставки в таком количестве должны быть осуществлены до конца 2012 года. Белорусская сторона обязалась это сделать согласно подписанному сторонами балансу топливно-энергетических ресурсов Союзного государства Беларуси и России на 2012 год. Об этом сообщил посол России в Беларуси* ***Александр Суриков*** *в интервью агентству ПРАЙМ-ТАСС.*

— Российская сторона в этом году шла в графике поставок нефти, нефтепродуктов — отгрузки за 9 месяцев даже превзошли утвержденный баланс. Но ведь поставки нефтепродуктов в обратном направлении из Беларуси в Россию не были осуществлены. И рынок российский оголился, и цены начали двигаться вперед. Около 6 миллионов тонн должно было вернуться с белорусского производства на российский рынок, а вернулось, по данным белорусской статистики, по итогам 6 месяцев — 98,7 тысячи тонн, — сказал А.Суриков.

— Все цифры баланса зафиксированы и подписаны — надо исполнять, — добавил посол.

Отвечая на вопрос, реально ли увеличить поставки российской нефти в Беларусь в соответствии с пожеланиями белорусской стороны до 23 миллионов тонн в 2013 году против 21 миллиона тонн в 2012 году, А.Суриков сказал: "Это дело баланса, дело обсуждения в рамках Союзного государства".

— И конечно, уже надо рассматривать баланс следующего 2013 года, потому что он должен быть принят в конце 2012 года на заседании союзного правительства, — сказал посол.

АКТУАЛІІ



*Святлана КАЛІНКІНА*

# Танцы ў Курапатах?

*Усе спахапіліся, ўсе абураюцца. Ля Курапатаў дабудоўваецца рэстаранна-забаўляльны комплекс "БульбашЪ-хол" — аграмадны рэстаран, лазня з банкетнай залай, домікі для больш інтымнага адпачынку, дзіцячая пляцоўка. Ужо і рэклама вісіць — "Хутка адкрыццё".*

Забаўляльны комплекс рыхтуецца адчыніць дзверы побач з тым самым месцам, дзе знаходзяцца безыменныя магілы — апошні прытулак тых, хто трапіў у жорны савецкай сістэмы і быў растраляны ў Курапацкім лесе. Навіна, якая выклікала сапраўдны шок!

Прычым нават не для ўсіх вестка стала навіной.

Як высвятляецца, яшчэ каля двух месяцаў таму да навуковага кіраўніка мемарыяльнай зоны "Курапаты" і дачкі рэпрэсаванага паэта Тодара Кляшторнага **Маі Кляшторнай** завіталі госці, якія прывялі з сабою прадстаўніка інвестара рэстараннага комплексу.

*— Маладзёны хацелі, каб я паставіла свой подпіс на іх праекце — дала згоду на будаўніцтва іх аб'екта ў ахоўнай зоне,* — расказала Мая Кляшторная газеце "Новы час". *— Зразумела, я нічога не падпісала. А вось Міністэрства культуры ім дало дазвол. Паўтаралі мне ўсё: "А хто зараз ведае пра вашыя Курапаты? Мы пыталіся ў суседзяў, сяброў — ніхто нічога не ведае!"*

*Калі на наступны дзень я даведалася, які ж аб'ект дакладна яны збіраюцца адкрыць каля месца масавых расстрэлаў і пахаванняў, то захварэла — у мяне адняліся ногі,* — расказала жанчына праз слёзы. *— Мы яшчэ жывыя — і на нашых вачах такое робіцца!.. Жах! Толькі нядаўна здолела ўстаць з ложка, зараз ужо па хаце хаджу.*

Зразумела, што Мая Тодараўна вельмі моцна абураная. Яна тлумачыць журналістам, што цяпер толькі прэзідэнт можа спыніць гэтую будоўлю.

Абураны і лідар партыі КХП—БНФ, чалавек, які фактычна адкрыў беларусам праўду пра Курапаты, — **Зянон Пазьняк**.

*— У краіне, дзе ўлада праводзіць антыбеларускую палітыку, гэта не можа быць выпадковасцю — гэта сістэматычная праява антыбеларускай палітыкі, праяўленне этнацыду. На жаль, гэта не адзінкавы выпадак: за апошнія дзесяць гадоў было некалькі спробаў знішчыць Курапаты. Самая скандальная спроба, калі ў 2001 годзе будавалі аўтастраду, у 2002 годзе зрабілі адвод вады пад крыж, выкапалі 40-метровую траншэю і хацелі зрабіць вадасцёкі. І тады пад крыжам у Курапатах было балота і твань, сябры КХП—БНФ прыйшлі з рыдлёўкамі і за адзін дзень засыпалі гэты роў. У 2006 годзе быў запраектаваны "Горад Сонца" каля самых Курапатаў — гэта быў бы комплекс для заможных людзей, прадугледжвалася пабудова катэджаў. З цяжкасцю ўдалося гэтага пазбегнуць. Трэба адзначыць, што грамадскасць, якая бараніла Курапаты, здолела дамагчыся таго, што была створана ахоўная зона вакол. Мала таго, што Курапаты прызнаны помнікам, але існуе зона, дзе нельга нічога будаваць і рабіць. І ёсць зона рэгуляванай забудовы, дзе можна будаваць не вышэй за адзін-два паверхі, але не вызначана, якія функцыі мусяць быць у гэтых будынкаў. Акурат гэта і выкарыстаў рэжым, там пачынаюць будаваць аб'екты, якія супярэчаць мемарыяльнай памяці, павазе да народа і гісторыі. Справа цёмная, што там пабудуюць, — магчыма, і патаемны бардэль. Хаця ў краіне прастытуцыя пад забаронай. Больш за тое, гэты рэстаран у праектнай дакументацыі называецца "БульбашЪ" з цвёрдым знакам — гэта ў першую чаргу праява ксенафобіі і нацыянальнай нянавісці на бытавым узроўні. Гэта знявага нацыянальнага гонару. Толькі за адну такую назву трэба падаваць у суд. Але пабудова гэтага комплексу — толькі пачатак, плануецца рэалізацыя яшчэ аднаго праекта гандлёвага цэнтра, гэта чарговая знявага нацыянальнай святыні.*

Нагадаю, што менавіта з артыкула **Зянона Пазьняка** і **Яўгена Шмыгалёва** "Курапаты — дарога смерці" мы ўпершыню даведаліся праўду пра гэтае месца масавых расстрэлаў. Улады з памяці людской нават слова такое спрабавалі знішчыць, і назва "Курапаты" наўпрост знікла з усіх карт. Урочышча афіцыйна назвалі "Брод": каб ніхто і не шукаў, і не меў надзеі знайсці гэтыя калектыўныя магілы. Але знайшлі. Ведаем. Помнім. Схіляем галовы.

Сам Зянона Пазьняк даўно жыве за межамі Беларусі, але Курапаты асабліва апякаюцца сябрамі ягонай партыі КХП—БНФ. І калі не кожны тыдзень, то кожны месяц дакладна мы, у газеце, атрымлівалі прэс-рэлізы, справаздачы, паведамленні ад КХП—БНФ і розных іншых суполак пра тое, што ў Курапатах адбылася чарговая талака. Прыбралі смецце, ўшанавалі памяць, аднавілі крыжы... Пісалі і пра праблемы — пра вандалаў, пра бамжоў, пра міліцыю, якая не жадае ахоўваць мемарыял. Але як жа атрымалася, што ніхто не бачыў рэальную будоўлю побач з крыжамі?

Зянон Пазьняк адтуль, з Амерыкі, сёння дэманструе сваю дасведчанасць і папярэджвае пра тое, што ёсць і новыя жадаючыя танчыць канкан на магілах, што ёсць і іншыя праекты. Яму баліць тэма Курапатаў, яму баліць Беларусь, ён адгукаецца артыкуламі і заявамі на самыя розныя падзеі беларускага жыцця, але не было ніякіх заяў Пазьняка наконт гэтых будоўляў. Ён усё ведае, усё прадбачыў, ён трымае руку на пульсе... Але...

Два месяцы таму да Маі Кляшторнай прыйшлі за подпісам на дазволе будаваць рэстаран. Чаму яна анямела? Чаму не здолела зрабіць хоць бы адзін тэлефонны званок — ці ў незалежную газету, ці сваім аднадумцам з партыі?

Калі меркаваць па назвах, то ў нас нямала грамадскіх арганізацый і ініцыятыў, якія вывучаюць гісторыю, рэпрэсіі, шукаюць дакументы, спісы, архівы, сведчанні, рапартуюць, што працуюць дзеля захавання памяці... Цяпер паўстае пытанне: чаму ніхто своечасова не звярнуў увагу на тое, што не трэба было шукаць, што відаць няўзброеным вокам?

Не сумняваюся, у гэтыя дні ўжо не адзін аўтар сядзіць ля камп'ютара і рыхтуе чарговы артыкул да трагічнага юбілею. Піша з болем, з абурэннем пра тое, як 75 гадоў таму, у ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года, былі расстраляны больш як сто беларускіх пісьменнікаў, навукоўцаў, святароў... Што ў тую страшную ноч знішчылі лепшых, знішчылі гонар Беларусі. Што, магчыма, там, у Курапатах, яны і знайшлі свой апошні прытулак.

Пісаць артыкулы — гэта правільна, страшныя даты сваёй гісторыі народ павінен ведаць і помніць. Але ніхто, ніколі, ні разу не прапаноўваў нам артыкул у рубрыку "SOS!" пра тое, што ў Курапатах пачалося маштабнае будаўніцтва.

Цяпер усе спахапіліся, заварушыліся. З'явіліся рэзкія інтэрв'ю, правільныя заявы, подпісы пад зваротам пратэсту збіраюцца. Але там ужо будыніны паўсталі, дарожкі ды клумбы парадкуюцца. А значыць, цяпер трэба ўжываць бязлітаснае слова — "позна"!

Нехта прызнаецца, што бачыў будоўлю, толькі і падумаць не мог, што гэта будзе забаўляльны комплекс. Нехта разгублена тлумачыць, што ў Курапаты заходзіў не з таго боку, а што за праца там, далей, ідзе, і не здагадваўся. Асабіста ў мяне таксама ёсць апраўданне: я ў той частцы Мінска амаль ніколі не бываю, у мяне там ні сваякоў, ні сяброў. А паколькі не было вестак, што ў Курапатах адбываецца нешта надзвычайнае, то і мне як журналісту не было нагоды туды ехаць...

Ва ўсіх ёсць і будуць апраўданні. Але як жа так атрымалася? І што зараз рабіць?

ПРАГНОЗ

*Аляксандр ВАЙТОВІЧ:*

# «Малаверагодна, што акадэмію ўзначаліць вучоны...»

*Хто ўзначаліць Акадэмію навук пасля Анатолія Русецкага, які абраны намеснікам старшыні Савета Рэспублікі? У самой навуковай установе кажуць, што сярод прэтэндэнтаў сем чалавек, тры кандыдатуры найбольш верагодныя, але канчатковае слова будзе за Аляксандрам Лукашэнкам.*

— Мне падаецца, што вучонага не паставяць, — выказвае сваё меркаванне былы кіраўнік Акадэміі навук, акадэмік Аляксандр Вайтовіч. — Прызначаць чыноўніка.

**— Але ж Анатолій Русецкі, які некаторы час быў старшынёй прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук, вучоны, доктар навук...**

— Ён працаваў у навукова-вытворчым аб'яднанні "Планар" Міністэрства электроннай прамысловасці СССР, там абараніў доктарскую дысертацыю. Але потым пакінуў навукова-інжынерную дзейнасць і стаў чыноўнікам: намеснікам міністра прамысловасці Рэспублікі Беларусь, потым — міністрам. Усё ж такі Анатолій Максімавіч больш чыноўнік, хаця і чалавек ад навукі, сапраўдны доктар навук. Але, сышоўшы з навукі на 15 гадоў, складана поўнавартасна вярнуцца назад.



**— Але ж ці гэта галоўнае для кіраўніка Акадэміі? Магчыма, для такой пасады патрэбны больш якасці менеджарскія, арганізатарскія. Русецкі, на ваш погляд, спраўляўся з абавязкамі, якія на яго былі ўскладзены?**

— Русецкі — стаўленік сістэмы, і ў гэтай сістэме ён працаваў. А яна, на мой погляд, прыносіць навуцы больш шкоды, чым карысці, не звяртае ўвагі на праблемы навукі. Ну прагучала на пачатку года з высокіх трыбун, што Акадэмію навук трэба рэфармаваць. Чым усё скончылася? З вялікага грому не было ніякага дажджу. Грымела, грымела, а гарод застаўся не паліты.

Беларускай навуцы, на мой погляд, сапраўды неабходны неадкладныя рэформы. Але, каб знайсці правільны шлях, трэба праблему абмяркоўваць, уключаць у дыскусію навуковую грамадскасць. Аднак гэтага не толькі не адбываецца, назіраюцца з'явы, якія скіраваны на тое, каб такой дыскусіі не дапусціць.

У 2001 годзе, калі Лукашэнка прызначаў кіраваць Акадэміяй Міхаіла Мясніковіча, ён заяўляў, што нарэшце прывёў чалавека, які зможа навуку рэфармаваць. Аднак у 2009 годзе выйшаў указ прэзідэнта, якім была зацверджана Канцэпцыя нацыянальнай бяспекі, што ўтрымлівала раздзел пра навуку. І там было прама сказана, што стан навукі дрэнны. Усе тыя недахопы, якія мелі месца раней, за 9 гадоў кіравання Мясніковіча не выправіліся. Прызналі, што навукаёмкасць валавага ўнутранага прадукту ніжэй за крытычны ўзровень, інавацыйная актыўнасць нізкая, неспрыяльная ўзроставая структура і г.д. І зноў пачаліся размовы пра рэфармаванне. І, магчыма, паставілі Русецкага, каб нарэшце пайшоў нейкі рух. Але ж ён не ў стане быў гэта зрабіць, бо не змог выйсці за рамкі беларускай сістэмы...

Дарэчы, я вельмі добра стаўлюся да Анатолія Русецкага. Добра яго ведаю, ён пачынаў сваю навуковую дзейнасць у нашым інстытуце. Вельмі прыстойны чалавек, разумны, таленавіты. Але ён, на жаль, чалавек сістэмы. І што самае прыкрае, яго пераемнік таксама будзе працаваць у такіх жа ўмовах і нічога не зможа зрабіць.

**— На ваш погляд, колькі часу Акадэмія можа быць без кіраўніка?**

— Думаю, нядоўга. У свой час, калі ў снежні 2009 года мяне з пасады прэзідэнта Акадэміі навук прызначылі старшынёй Савета Рэспублікі, месца заставалася вакантным амаль 9 месяцаў. Было гэта звязана з тым, што мянялася працэдура прызначэння кіраўніка акадэміі. Раней ён выбіраўся на агульным сходзе, галасавалі акадэмікі, члены-карэспандэнты, дырэктары акадэмічных інстытутаў. Прэзідэнт акадэміі быў выключна з навуковай эліты — акадэмікаў. А ў кастрычніку 2001 года ўжо не стала такой пасады, як прэзідэнт Акадэміі навук, яе замянілі на старшыню прэзідыума, і Міхаіл Мясніковіч быў прызначаны ўказам Аляксандра Лукашэнкі.

Але калі сыходзіў Мясніковіч, то замену яму знайшлі хутка, працэдура не доўжылася месяцамі.

**— Апошняе пытанне: якія сёння заробкі ў Акадэміі навук?**

— За першае паўгоддзе сярэдняя зарплата навуковых супрацоўнікаў Нацыянальнай акадэміі навук складала 3,4 мільёна рублёў. Тарыфны аклад старэйшага навуковага супрацоўніка з даплатамі за стаж, ступень кандыдата навук — 2,2 мільёна рублёў. У Расійскай Федэрацыі такі супрацоўнік атрымлівае амаль у 3 разы больш — 26 тысяч расійскіх рублёў.

Кадры — гэта галоўнае. Пакуль не будзе прэстыжу навуковой працы, не будзе кадраў, ніякія рэформы нічога не зробяць. Усё вырашаюць людзі!

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

РАКІРОЎКА

## *Ці спыняцца скандалы пры новым трэнеры?*

**Аляксандр Трашчыла** стаў галоўным трэнерам зборнай Беларусі па лёгкай атлетыцы.

Беларускую "каралеву спорту" ў апошні час скаланаюць скандалы. У маі гэтага года сілавымі структурамі былі затрыманы галоўны трэнер нацыянальнай каманды **Анатоль Бадуеў** і ўрач **Павел Дрынеўскі**. Паводле папярэдняй інфармацыі, трэнера падазравалі ў вымагальніцтве. Крымінальную справу завялі прыкладна за два месяцы да Алімпіяды, дзе каманда па лёгкай атлетыцы ўпершыню ў гісторыі незалежнай Беларусі не ўзяла ніводнага медаля. А штурхальніца ядра **Надзея Астапчук**, якая канфліктавала з Бадуевым перад яго арыштам, пазбавілася залатой узнагароды з-за ўжывання допінгу. Зараз і Дрынеўскі, і Бадуеў адпушчаны на волю пад падпіску аб нявыездзе. Апошні нават паведаміў "Народнай Волі", што застаецца на пасадзе старшыні Федэрацыі лёгкай атлетыкі.

Але зараз стала вядома, што галоўным трэнерам зборнай прызначаны Аляксандр Трашчыла, які да гэтага быў выконваючым абавязкі настаўніка нацыянальнай каманды. Яму 51 год, у свой час станавіўся чэмпіёнам свету ў эстафеце 4х400 метраў.

Дарэчы, пасля Гульняў Аляксандр Трашчыла даволі рэзка выказаўся пра падрыхтоўку спартсменаў. *"Мы прайгралі гэтую Алімпіяду метадычна і фармакалагічна*, — заявіў ён. — *Усе спартыўныя навінкі да нас не даходзілі. Да таго ж трэба мець добрых спецыялістаў... Кульгаў трэніровачны працэс: недзе перастараліся, але неабходнага выніку не дасягнулі. Нам спатрэбіцца 2—3 гады, каб выбрацца з той ямы ў лёгкай атлетыцы, у якой мы зараз знаходзімся. Сёння змяніліся тэхналогіі, і мы са сваімі старымі меркамі не ўпісваемся. А нічога новага ў нас не з'явілася. Спартсмены былі гатовы змагацца, але яны падышлі да Алімпіяды ні з чым. Расіяне і немцы заходзяць у кабінку, робяць, што ім патрэбна, і ідуць кідаць молат. А тое, на чым рыхтаваліся мы, — гэта 1979 год".*

Дарэчы, не так даўно змяніўся і кіраўнік Федэрацыі лёгкай атлетыкі. На пасадзе старшыні былы намеснік міністра спорту і турызму Рыгор Касячэнка змяніў Уладзіміра Патупчыка, які кіраваў федэрацыяй з лістапада 2007 года.

**Алесь СІВЫ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

*Марат НОВІКАЎ:*

# «...У мяне, напэўна, здарыўся б інфаркт і прывезлі б мяне назад у металічнай скрыні»

*Не ў традыцыях “Народнай Волі” даць слова аднаму боку і не даць другому.*
*У папярэдніх нумарах газеты мы прадставілі версію дзяржавы наконт таго, што адбылося на кандытарскіх фабрыках “Камунарка” і “Спартак”. Мы далі слова таксама тым, каго выціснулі з фабрык “дзеля бізнес-інтарэсаў Марата Новікава”. Сёння сваю версію падзей выкладае да нядаўняга часу галоўны інвестар фабрык Марат НОВІКАЎ.*



## «У Мінску калі чалавек прывёз мех грошай — тады гэта інвестар»

**— Якая ваша версія таго, чаму дзяржава вырашыла адабраць у вас “Камунарку” і “Спартак” — прадпрыемствы ж давалі прыбытак, развіваліся, заробкі супрацоўнікаў раслі?**

— Дык прэзідэнт жа сказаў, што нічога гэтага не было! Падзенне рынку і гэтак далей. Па шчырасці, мы самі цяпер у шоку, самі разбіраемся, адкуль ногі растуць. Не хочам выклікаць агонь на сябе — а раптам мы не маем рацыі? Будзем жыць і глядзець, для чаго гэта ўсё было зроблена.

Адзінае, што я магу вам сказаць: калі ўсё ў адных руках сабрана, тады і парадак ёсць, няма ні “адкатаў”, ні “прыкатаў”, няма “несуноў”. У гэтым я цалкам падтрымліваю прэзідэнта — трэба, каб усё было сабрана ў адных руках... у інвестараў. І вось нам падаецца, што ў нас быў суперпарадак. Але ж уладзе лепш бачна! Таму мы сёння не можам казаць, што ўлада не мае рацыі — можа, яна і мае рацыю. Можа, мы нешта недапрацоўвалі — час пакажа, як фабрыкі будуць развівацца...

**— І ўсё ж - як інвестар колькі вы ўклалі грошай у развіццё гэтых прадпрыемстваў?**

— Укладзена 19 гадоў жыцця! Самае вялікае багацце на зямлі — душа, сэрца і талент. Гэта не ацэньваецца ніякімі грашыма. А ў Мінску інакш: калі чалавек прывёз мех грошай — тады гэта інвестар. А тое, што названыя тры фактары могуць зрабіць не мех грошай, а багацце — гэта ніхто не ацэньвае! Але я такіх інвестараў тут яшчэ не бачыў. Я ведаю некалькі такіх выпадкаў у Маскве, калі людзі прывезлі грошы, даверылі іх генеральным дырэктарам — давайце, рабіце! Дык тыя ўсё проста пакралі — і ўсё! Інвестыцыі не ў грашах, а ў веданні — што і як рабіць, каб прыбытак быў. Прадпрыемствы нашы працавалі з прыбыткам, з добрымі заробкамі, ды яшчэ і з прэміямі. “Спартаку” сёння запланавана даць 15 мільёнаў долараў чыстага прыбытку, “Камунарцы” — 12—13 мільёнаў долараў. І калі там будзе ўсё так, як і пры нас, то яны гэта дадуць. Кажуць, што мы зарабілі на какава-бабах дзясяткі мільёнаў. Мы на такія сумы какава-бабы не прадавалі!

## «Тут адзін пастаянна крычаў, што мы можам набываць какава-бабы наўпрост з біржы...»

**— Дарэчы, сённяшняе кіраўніцтва “Камунаркі” і “Спартака” захавала кантракты на пастаўку какава-бабоў з ранейшымі пастаўшчыкамі?**

— Зразумела! У іх жа будзе крах, калі яны ад нас адмовяцца сёння, спыняцца фабрыкі. Каб нас памяняць, трэба выбраць партнёраў, якія будуць з імі працаваць. Мы 19 гадоў адпрацавалі са “Спартаком” і 14 — з “Камунаркай”, і ніколі ніводнай гадзіны фабрыкі не стаялі. Нават у складаныя інфляцыйныя месяцы. І дзяржава нам у той час не праканвертавала ніводнага долара! Усё цягнуў на сабе інвестар, усё фінансаваў.

**— Нават пасля заявы Кабякова, што кошты на какава-бабы ў вас вышэйшыя за рынкавыя?**

— Ніхто рынкавых коштаў на какава-бабы не ведае. І Кабякоў таксама. Калі б мы прадавалі дорага, то фабрыкі б не давалі такія шалёныя прыбыткі. Калі б мы былі жулікамі, то навошта даваць такі прыбытак — мы б яго клалі ў кішэню! Магчымасцяў для гэтага вельмі шмат. Мэта інвестараў была не класці сабе ў кішэню, а развіваць фабрыкі. Каб насамрэч атрымліваць сур’ёзныя дывідэнды. Нават дывідэндаў інвестар не атрымліваў — усё ўкладалася ў развіццё. А вось калі намі пачалі займацца год таму, калі мы пабачылі, што настроена дзяржава вельмі дрэнна, мы пачалі браць дывідэнды.

Кошт на какава-бабы на рынку будуецца гэтак жа, як на нафту. Сёння рынкавы кошт нафты — 100 долараў. Але за 100 долараў ты яе не купіш. Ты купляеш нафту ў Венесуэле — яна больш брудная і больш затратная, але каштуе 87 долараў. У Расіі нафта больш чыстая, але каштуе 109 долараў. Так і какава-бабы — яны не маюць аднаго кошту! Пасля біржы іх трэба прывезці на сухагрузе ў Талін, пакласці ў сховішча, расфасаваць па мяхах. Тут адзін міністр пастаянна крычаў, што мы можам набываць какава-бабы наўпрост з біржы. Уяўляеце сабе, што гэта за ўзровень міністра! Якая неадукаванасць — ніхто нічога не разумее, а ўсе кіруюць! Большай бязглуздзіцы быць не можа. Скажы такое якому замежніку, ён будзе доўга смяяцца. А мне заўсёды пра гэта казалі!

Яны біржу адкрываюць: “Вой, па 2800 какава-бабы! А Марат прадае па 3100! Злодзей”. Але ж я магу прадаваць і па 4000 — гэта ж рынак. За ўвесь час працы не было ніводнай прапановы, таннейшай за нашу. Кожны год аб’яўляўся тэндар не толькі на какава-бабоў, але і на ўсю сыравіну — дзяржава гэтага патрабуе. І так набывалі — праз тэндар. Па-амерыканску гэта называецца bullshit! Гэта ж рынак — гэта працуе складана.

І я павінен зарабляць сваёй фірмай: у мяне сакратарка зарабляе 32 тысячы долараў у год, а менеджары — звыш 100 тысяч долараў у год. Інакш яны працаваць не будуць — яны размаўляюць на любой мове і працуюць з 42 краінамі! Ды што там — мяне ўжо запрашаюць на 300 тысяч у Еўропу дырэктарам кандытарскага прадпрыемства. Плюс — 5 працэнтаў дывідэндаў ад прыбытку ў якасці бонусу. Цэняць! А тут — прыбытак паказаў, а ў адказ атрымаў: “Жулікі і злодзеі ўсё пакралі!” Не, ён сказаў: “Забілі фабрыку”. Мы рэанімавалі дзве фабрыкі! Фабрыкі нічога старога не выпускаюць, усе брэнды новыя, паставілі дзве новыя лініі, якія зараз пачынаюць працаваць: суфле і вафельныя цукеркі. Шыкоўныя дзве лініі. Але яны нават з гэтымі дзвюма лініямі нічога не выцягнуць — рынак збыту патрэбны!

Нельга сказаць, што мы рынак не развівалі — мы прапарцыянальна рынку ішлі. Наймалі фірмы, яны нам рынак даследавалі — нам гэта каштавала 350 тысяч долараў. Даследавалі еўрапейскі рынак, расійскі, украінскі, і мы пабачылі, дзе ёсць нішы. Ведалі, што нам рабіць, куды ісці. Яны будуць гэтым займацца?! Хто там гэтым будзе займацца?!

## «Прапаноўвалі: дзяржава праляцела, памылілася, давайце пойдзем ёй насустрач»

**— Акцыі прадпрыемстваў былі і ў дзяржавы. За гэты час яна таксама ў развіццё фабрык інвеставала?**

— Уклала! Псаванне нерваў і пастаянныя праверкі! У нас даходзіла да 70 сур’ёзных праверак за год. Асабліва на “Спартаку”. Гады тры, як перасталі правяраць. А так: адна праверка сыходзіць — іншая прыходзіць. Прычым такія: падатковая, Дзяржкантроль, КДБ, АБАЗ (аддзел па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю), фінансавая міліцыя. Прыходзяць і кажуць: “Ну, у іх жа недзе ёсць, ён жа не можа так працаваць”. Судзяць жа па сабе! І шукаюць. А потым тая ж падатковая кажа: “Дайце нам мільёнаў на 50 (парушэнняў), давайце мы на транспарт напішам. А то ў вас два з паловай месяцы адсядзелі і нічога не знайшлі”. Далі ім 35 мільёнаў, каб толькі сышлі. Даходзіла да парадоксаў — гэта цяжка нармальнаму чалавеку патлумачыць.

**— Зараз кажуць, што прычына, з якой дзяржава забрала сабе гэтыя прадпрыемствы, у тым, што калісьці дзяржаўная камісія па прыватызацыі занізіла кошт прадпрыемства…**

— Па-першае, гэта глупства. Па-другое, яны памыліліся, яны занізілі — дзяржава нясе за гэта адказнасць. Як можна сваю памылку перакладаць на чужыя плечы?! Больш за тое, мы прапаноўвалі: няхай фабрыка выкупіць у людзей блакіруючы пакет акцый і аддасць дзяржаве. У прадпрыемства ёсць зараз грошы — дзяржава праляцела, памылілася, давайце пойдзем ёй насустрач. Калі мы дабрачыннасцю займаемся, то чаму дзяржаве не дапамагчы? Прапанавалі кампенсаваць страты, якія нанеслі вашы дзяржаўныя чыноўнікі. Не! Задача, безумоўна, ставілася іншая — забраць. І ўсё гэта прыдумана. Бо ў тыя гады ніякіх такіх разлікаў не існавала — чаму сёння да гэтага трэба прыйсці? Дый ўвогуле — навошта прыбытковае прадпрыемства чапаць? У дзяржавы звыш 50% непрыбытковых прадпрыемстваў. Вось і падумайце, навошта гэта робіцца.

**— У вас акцыі “Камунаркі” і “Спартака” засталіся?**

— Засталося дзесьці 12% на “Камунарцы” і каля 20% — на “Спартаку”.

**— Што вы з імі будзеце рабіць?**

— Нічога, будзем акцыянерамі. Нічога мы з імі і зрабіць не можам — дзяржава ж арышт наклала на “Камунарку” і “Спартак”.

**— А былых дырэктараў “Камунаркі” і “Спартака” будзеце працаўладкоўваць? Можа, да сябе ў фірмы возьмеце?**

— Сёння былыя дырэктары “Камунаркі” і “Спартака” знаходзяцца на такім узроўні разумовым, адукацыйным і практычным, што, я думаю, яны і самі ўладкуюцца. У такіх менеджараў будзе мора прапаноў і без нас. Мы не плануем больш з Беларуссю неяк працаваць, нейкія інвестыцыі ўкладваць і гэтак далей.

## «Мы адразу дамовіліся з партнёрамі: у палітыку не лезем»

**— На восеньскі інвестыцыйны форум у Мінск не збіраецеся? Ну, можа, каб выбраць сабе новыя аб’екты для інвестыцый….**

— Мы ж не вар’яты! Да псіхіятраў яшчэ не ходзім.

**— Але ж дадумаліся “розным таварышам”, як сказаў Лукашэнка, грошы даваць!**

— Я не ведаю, што ён меў на ўвазе, але я скажу: наш бізнес заўсёды быў і ёсць па-за палітыкай. Мы ніколі нікога не паддобрывалі, да нас ніхто не звяртаўся, у мяне ў галаве ніколі такой тэмы не было. Фінансавалі толькі дабрачынныя форумы: дзяцей-інвалідаў, піянераў, давалі грошы Мінску і Гомелю на ўсялякія вечары, калі ўлады звярталіся. А так — ніколі ў жыцці, дзецьмі магу паклясціся! Не таму, што супраць ці не супраць палітыкі, — мы адразу дамовіліся з партнёрамі: нікуды не лезем. І, па шчырасці, да нас ніхто не звяртаўся. Я думаю, што спецслужбы гэта таксама ведаюць.

**— Магчыма, не звярталіся, таму што ведалі, як вы лаяльна ставіцеся да Аляксандра Рыгоравіча…**

— Пакуль ён нас не вырубіў, я ставіўся да яго... Я не хачу яго характарызаваць — я ўвогуле па-за палітыкай. Але яго жорсткасць у адносінах да чыноўнікаў мне падабалася — што ён чыноўнікаў ганяў. І я казаў: “Вось адзіны чалавек у дзяржаве, які патрабуе ад іх, каб яны працавалі”. Але што ад іх патрабаваць, калі яны не могуць і не ўмеюць?.. Вось, яны зараз узяліся апантана, каб нешта паказаць, але па першых кроках я бачу, што, акрамя краху, нічога не будзе (пра “Камунарку” і “Спартак”. - **“Еўрарадыё”**). Цяжка, нават не пасля нас, а пасля гаспадара, дзяржаве наводзіць парадак. Няма ў сусветнай практыцы такога! Можа, у Беларусі такое здарыцца? Тады гэтая новая мадэль запрацуе і ў свеце таксама. Пачне дзяржава набываць прадпрыемствы і рабіць іх дзяржаўнымі — яны ж іх не будуць забіраць, а будуць скупляць. Бо ўсе ж цывілізаваныя. Кажуць жа, што Аляксандр Рыгоравіч стаіць вышэй за Бога. То, можа, такое ў Беларусі і здарыцца — брэсцкі губернатар сказаў: “Аляксандр Рыгоравіч, вы трохі вышэй за Бога!”

## «Што табе даражэй: бізнес ці жыццё?»

**— Што вам перашкодзіла прыехаць на прэзідэнцкую нараду па “Камунарцы” і “Спартаку”?**

— За два тыдні да нарады я парваў звязкі калена і быў у гіпсе. Я хадзіў на мыліцах, ціск узняўся — я сардэчнік, гіпертонік. Пайшоў да свайго кардыёлага і сказаў, што хачу паляцець у Мінск, у мяне там праблемы наконт бізнесу. А ён кажа: “Што табе даражэй: бізнес ці жыццё? Ты там расхвалюешся і можаш там застацца — я табе ніякіх гарантый не даю”.

Са мной была жонка, яны падбухторыла дзяцей, і ўсе яны разам з унукамі як узняліся на мяне! І я цяпер рады, што не паехаў! Калі слухаў усё, што там было, смяяўся. А калі б я выслухаў гэта там? Ды калі б мяне яшчэ пачалі абражаць і прыніжаць, ды казаць, што я нічога не варты... У мяне, напэўна, здарыўся б інфаркт і мяне прывезлі б назад у металічнай скрыні. Цяпер я бачу, што зрабіў правільна, — інакш пытанне ўсё адно не вырашылася б. Усё ўжо было запраграмавана і вырашана. Нават тыя выступоўцы, якія казалі, што мы нічога не зрабілі, няма ніякага развіцця, нават ніякай упакоўкі няма, — я смяяўся, калі слухаў гэта. Старое ўсё! Там нічога старога не засталося — нават кадраў!

**— А то ў нас тут чуткі былі, што вы перасцерагаліся ад арышту…**

— А за што? За тое, што я дорага прадаваў? Дык гэта мая справа! А хто мне сёння можа сказаць, што гэта — дорага? Як гэта ўвогуле можна даказаць? Вось калі б сёння паказалі пяць фірм і сказалі, што яны прапаноўвалі танней і такой жа якасці і такую ж сінхроннасць падачы! Ты можаш сёння набыць танней, але яны табе могуць паставіць на дзень пазней сыравіну, і ў цябе прастаіць фабрыка, на гэтым адразу згубіш паўмільёна. Але пра гэта ніхто не задумваецца. Бо мазгоў не хапае пра гэта падумаць! Таму часам не пераплачваеш, а плаціш грошы, каб тваё прадпрыемства працавала на прыбытак. А калі ёсць прыбытак — гэта азначае, што ўсё прадаецца і ёсць якасць прадукцыі! Не было б сінхроннасці падачы — не было б якасці. Бо нешта б мянялі, тэхналогію парушалі б. Нашы прадпрыемствы працавалі сінхронна і не спыняліся нават у самыя цяжкія часы. І заўсёды быў продаж — ён сёння наладжаны так, што я не думаю, каб нехта ў гэтым мог цягацца з намі. Прадаваць на 4—5 мільёнаў долараў сёння могуць толькі кандытары Расійскай Федэрацыі. Мы стаялі на мяжы заключэння кантрактаў (яны ў мяне ў офісе ляжаць) з Аўстраліяй, Новай Зеландыяй, Кітаем. Я нават сам не ведаў, мне сын сказаў, што адгрузілі кантэйнер на Венесуэлу. Аляксандр Рыгоравіч кажа, што не гандлюецца з Венесуэлай, а ў нас на Венесуэлу і Калумбію пайшоў кантэйнер з шакаладам! А зараз Аляксандр Рыгоравіч скажа: “Вось бачыце — даў ім трындулёў, і яны ўжо з Венесуэлай гандлююць”.

На абедзвюх фабрыках 4 тысячы чалавек працуе — мне іх шкада. Хай бы і далей працавалі. Калі будзе магчымасць, я ім заўсёды дапамагу. Я не маю крыўды — так, відаць, павінна было адбыцца рана ці позна. Адзінае партнёр правільна сказаў: трэба было ўвесь прыбытак — усё адно ж мы жулікі — сюды везці! А я заўсёды казаў: “Давайце развіваць фабрыкі, ад нас прыбытак ніколі не ўцячэ — будзем дывідэнды атрымліваць”. Вось я і наатрымліваўся! Але дай Бог, каб яны і далей працавалі. Бачыце, у мяне нават голас не дрыжыць. Толькі гэта вельмі складаны працэс, калі дзяржава кіруе, — мы гэта ўсё праходзілі ўжо.

**— Вашы парады будучым замежным удзельнікам Беларускага інвестыцыйнага форуму.**

— Нічога не магу раіць: кожны чалавек павінен думаць сваёй галавой. Едуць — хай едуць. Гэта іх праблема. У бізнесе ніхто нічога нікому не раіць. Кожны павінен ведаць, што ён робіць.

**Зміцер ЛУКАШУК,**
*“Еўрарадыё”.*

ПАДЛІЧЫЛІ...

## *Сярэдняя пенсія па ўзросце да 2 мільёнаў не дацягне*

*Сацыяльныя пенсіі, надбаўкі, павышэнні і даплаты да пенсій павялічацца ўсяго толькі на 4,3%.*

З лістапада ў Беларусі павышаюцца пенсіі. Пераразлік працоўных пенсій па ўзросце будзе зроблены зыходзячы з сярэдняй заработнай платы работнікаў за III квартал.

*“У выніку пераразліку з лістапада 2012 працоўныя пенсіі, пры вылічэнні памеру якіх не ўжываецца бюджэт пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва, павялічацца на 14,7%”,* — заявіў намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны **Валерый КАВАЛЬКОЎ.**

Паводле слоў намесніка міністра, адначасова з пераразлікам працоўных пенсій будуць пералічаны мінімальныя працоўныя і сацыяльныя пенсіі, надбаўкі, павышэнні да пенсій і даплаты да пенсій асоб старэйшых узростаў у сувязі з ростам бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва (БПМ). БПМ у цэнах верасня 2012 года ў параўнанні з яго папярэднім паказчыкам вырасце на 4,3% і складзе 880.030 рублёў. Адпаведна на 4,3% павялічацца сацыяльныя пенсіі, надбаўкі, павышэнні і даплаты да пенсій.

У выніку пераразлікаў у лістападзе сярэдняя пенсія па ўзросце, павялічыцца прыкладна на 14,1% і складзе 1 млн 964,3 тысячы рублёў.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

## *Кто это считает?*

*Семья из четырех человек может прожить на 1 миллион 391 тысячу 530 рублей?*

В Беларуси утверждены новые размеры среднедушевых минимальных потребительских бюджетов (МПБ) для восьми социально-демографических групп населения.

Так, среднедушевой минимальный потребительский бюджет семьи из четырех человек с 1 ноября 2012 года по 31 января 2013 года составит 1 млн 391 тыс. 530 рублей в расчете на месяц. Это на 4,5% превышает норматив, действующий с 1 августа по 31 октября 2012 года.

В Министерстве труда и соцзащиты поясняют: минимальный потребительский бюджет представляет собой расходы на приобретение набора потребительских товаров и услуг для удовлетворения основных физиологических и социально-культурных потребностей человека.

По словам специалистов, основные статьи расходов среднедушевого МПБ семьи из четырех человек в ценах сентября 2012 года следующие: продукты питания — 55,6%, одежда, белье, обувь — 22,3%, пользование жилым помещением и коммунальные услуги — 4,8%, бытовые услуги, транспорт, связь — 4,7%, предметы культурно-бытового и хозяйственного назначения — 7,9%, предметы санитарии, гигиены, лекарства — 2,3%, культурно-просветительные мероприятия и отдых — 1,3%, взносы и платежи — 1,1%.

Утверждены также минимальные потребительские бюджеты:

молодой семьи из трех человек — 1.452.620 рублей,

трудоспособного населения — 1.745.000,

пенсионеров — 1.358.780,

студентов — 1.360.790,

детей в возрасте до 3 лет — 1.080.530,

детей в возрасте от 3 до 6 лет — 1.289.580,

детей в возрасте от 6 до 18 лет — 1.562.920 рублей.

ЧУЛІ?

## *За ўтылізаванае аўто — 26 мільёнаў рублёў*

Холдынг “БелГАЗавтосервис” пачынае ў Беларусі рэалізацыю праграмы па ўтылізацыі аўто. Галоўная яе адметнасць — удзельнічаць у праграме змогуць фізічныя асобы.

“*Першая праграма ўтылізацыі, якая была запушчана ў Беларусі, мела ўрэзаны характар”,* — паведаміў намеснік генеральнага дырэктара холдынгу Андрэй Праватораў. Раней для ўтылізацыі прымаліся толькі камерцыйныя аўтамабілі ад юрыдычных асоб і толькі ў Мінску. *“З 10 верасня гэтага года мы спрасцілі ўтылізацыю, зрабілі яе больш простай і цікавай,* — патлумачыў прадстаўнік холдынгу. — *Цяпер мы падключылі рэгіёны і далі да ўдзельнікаў праграмы фізічных асоб, якія беспераШкодна могуць здаваць аўтамабілі, якія не выкарыстоўваюцца, атрымліваючы пры гэтым зніжку 26 мільёнаў беларускіх рублёў для пакупкі новых. Зніжка пакінута намі, нягледзячы на змяненне валютнага курсу. І галоўнае — зараз мы гатовы прымаць аўтамабілі любых марак”.*

Адпаведна праграме Trade in “БелГАЗавтосервисом” ажыццяўляецца выкуп аўтамабіля любой маркі ў кліента з продажам яму новага аўтамабіля ГАЗ. Для ўдзелу ў праграме Trade in неабходна выканаць наступныя ўмовы: на аўтамабілі павінны прысутнічаць асноўныя вузлы і нумарныя агрэгаты, а сам аўтамабіль быць у спраўным тэхнічным стане, прадавец старога і пакупнік новага аўтамабіля павінны быць адной і той жа асобай, аўтамабіль мусіць знаходзіцца ва ўласнасці кліента.

## *«Золотая рыбка» — лицо «Беларусбанка»*

*Двукратный серебряный призер Олимпийских игр в Лондоне пловчиха Александра Герасименя подписала рекламный контракт с государственным “Беларусбанком”. Об этом было заявлено на официальной пресс-конференции в Минске.*

Как уточнил журналистам в кулуарах менеджер Герасимени Сергей Щурко, “Саша стала лицом банка за шестизначную сумму в валюте”. Герасименя удивилась сумме: “Знала, что хорошо, но не знала, что настолько”.

“Золотая рыбка” белорусского плавания планирует потратить часть средств на себя, а часть — на сборы.

Напомним, что на Олимпийских играх в Лондоне Александра Герасименя выиграла две серебряные медали. За этот успех белорусское государство поощрило спортсменку 150 тысячами долларов. По словам Герасимени, призовые она хранит в “Беларусбанке”, но часть этих средств уже потрачена на благотворительность.

СТОЛИЦА



# Элита по-белорусски

*Риелторы норовят назвать каждую вторую минскую новостройку если не элитной, то уникальной или особенной. На самом деле зачастую это совершенно обычное жилье. Однако есть в Минске дома, которые на самом деле являются элитными.*

“Народная Воля” представляет тройку самых дорогих новостроек столицы.

## Клубный дом на Смолячкова

Стоимость квадратного метра — от 2,5 до 3 тысяч долларов

На сайте застройщика (компания “Беллер-корона”) проект представлен как “элитный жилой дом в самом центре Минска”. Новостройка расположена на улице Смолячкова, между больницей МВД и Военным кладбищем.

В доме будет 5 этажей и всего 30 квартир со свободной планировкой. Квартиры только только трех- и четырехкомнатные, площади — от 139 до 156 кв. метров.

Таким образом, жилье обойдется потенциальному покупателю в 347—390 тысяч долларов.

За такие деньги застройщик обещает трехметровые потолки, высокоскоростные бесшумные лифты, систему видеонаблюдения, окна Funke, итальянские радиаторы. Каждому собственнику за дополнительную плату предоставляются два места на подземной автостоянке (стоимость одного — 30 тысяч долларов).

## Жилой дом «У Троицкого»

Стоимость квадратного метра — 3 тысячи долларов.

Минская новостройка, которая вызывает больше всего пересудов. Дом расположен в исторической части Минска, на улице Сторожевской. Застройщик — компания “Трайпл” — позиционирует его как “эксклюзивный жилой комплекс премиум-класса”, “одно из лучших мест для жизни”.

Всего в доме будет 235 квартир. Почти все уже проданы. Сейчас на сайте застройщика предлагаются только 23 свободные квартиры. Например, самая дешевая “однушка” общей площадью 112,3 (!) кв. м на первом этаже стоит 336.900 долларов.

А четырехкомнатная квартира площадью 332,4 кв. м на 17-м этаже обойдется почти в миллион долларов.

Трехуровневый паркинг рассчитан на 316 автомобилей. Стоимость одного машино-места — 40.000 у.е.

Споры вокруг дома не утихают. Одни архитекторы считают, что он удачно вписался в окружение. Другие разочарованы: громадный объем окончательно “унизил” Троицкое предместье и заслонил оперный театр. Защитники архитектурного наследия и вовсе называют комплекс “агрогламуром” и ставят вопрос о его демонтаже. Автор проекта жилого комплекса Олег Ладкин невозмутим: со временем полемика утихнет, уверен он, а скептики канут в Лету, как и те, кто не принимал Эйфелеву башню.

## Самый дорогой из строящихся жилых домов в Минске называется «Времена года»

Стоимость квадратного метра доходит до 3,5 тысячи долларов.

Восьмиэтажный особняк расположен по адресу Киселева, 17, недалеко от площади Победы. В каждом из четырех подъездов 12 квартир (по две на этаже) и два бесшумных лифта. Высота потолков составляет 3,5 метра в квартирах повышенной комфортности и до 5 метров в пентхаусах.

Площадь квартир — от 164 до 310 кв. метров, от 401 до 677 кв. метров — пентхаусы. Коридоры и лестницы общего пользования отделаны дорогой плиткой, венецианской штукатуркой, коваными элементами и витражными окнами.

Для жильцов предусмотрен ФОК со спортивным и тренажерным залами, 25-метровым бассейном, русской баней и сауной, массажным салоном и закрытым теннисным кортом, трансформируемым в баскетбольную либо волейбольную площадку. Безопасность будет обеспечиваться закрытой огороженной территорией с круглосуточным видеонаблюдением, дежурным освещением по периметру и охраной.

**Игорь МОРОЗОВ.**

